Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

22 лістапада 1997 года
СУБОТА
№ 69
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 1000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## МЯСЦОВЫ

### Выручай, Китай!

**БАРАНОВИЧЫ.** Попав в перестройку, станкостроительный завод, как и многие другие предприятия, безвинно провалился в глубокую финансово-экономическую бездну. Слившись с Минским заводом холодильников «Атлант», через него предприятие вышло на японских производителей холодильных установок. Специалисты страны восходящего солнца откликнулись на предложение станкостроителей совместно создать высокую технологию по производству холодильных агрегатов в Барановичах. Что и было сделано в сравнительно короткий срок. И это позволило коллективу на продолжительное время не только избавиться от производственных проблем, но и успешно решать вопросы социального развития.

Минские холодильники с барановичскими узлами потеснили конкурентов и прочно завоевали свою рыночную нишу. Но время потребовало дальнейших поисков увеличения объемов производства продукции, повышения ее качества.

Станкостроители чутко уловили момент потепления белорусско-китайских отношений и решили попытать счастья в этой далекой стране. Директор завода В. В. Решетко вместе с заместителем председателя горисполкома А. С. Перепелкиным и начальником Барановичского отделения Белорусской железной дороги В. Г. Рахманько отправились в китайский город Пуци (провинция Хубей). Там их сердечно встретили, выслушали, показали, что надо. И кое-что предложили. Стороны подписали ряд протоколов о сотрудничестве . И быть заводу с деньгами, новыми домами, базами отдыха. Ведь не просто так станкостроительный сделал заявку на довольно обширную территорию в центре города, где живут люди в ветхих домах.

Быть новой продукции, новым прибылям и новосельям.

### Вернікі ў вернікаў

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Шэсць вернікаў мясцовай грэка-каталіцкай царквы наведалі ў мінулую нядзелю Лідскую парафію, дзе адзначаўся Дзень святога Езафата Кунцэвіча. Яны прысутнічалі ў касцёле на ўрачыстай літургіі, якую правёў архімандрыт Сяргей Баёк.

## ФОТАСЮЖЭТ



*Стаміліся.* *Фота А. ГАНЧУКА.*

### Восень з польскай песняй

**БЯРОЗА.** У першым абласным фестывалі польскай песні, які ладзіўся ў Брэсце, брала ўдзел фальклорная група "Вінец" ад Сігневіцкага касцёла. Удзельніцы яе, пажылыя жанчыны, забыўшы пра свой узрост і хваробы, на сцэне фестывалю выканалі дзве песні на польскай мове і адзін танец. Гледачы не хавалі сваіх эмоцый: падпявалі самадзейным артыстам, дружна апладзіравалі. Сігневіцкія жанчыны за сваё выступленне ўзнагароджаны каштоўным прызам і дыпломам.

### Калі ўжо медыцына бясплатная,

а грошай на яе не хапае, іх неяк трэба здабываць. Пастановай галоўнага санітарнага ўрача Рэспублікі Беларусь зацверджаны новыя санітарныя кніжкі. Яны асаблівага ўзору, з пранумараванымі старонкамі, з вадзянымі знакамі і падробцы не паддаюцца, не раўнуючы амерыканскі долар. Каштуе такая кніжка 90 тысяч рублёў. Для параўнання: раман Дзюма ў супервокладцы кожны можа набыць за 60 тысяч. Асабліва радуюцца навінцы даяркі, у якіх заробку хопіць на дзве-тры такія цацкі.

### Будем ли работать на Пасху?

Совет Министров Беларуси разработал и представил в Администрацию президента предложения по сокращению количества нерабочих праздничных дней в году.

### Дапамога раддому

**БАРАНАВІЧЫ.** Радзільны дом, як і ўся медыцына, у жабрацкім становішчы. Парадзіхам прапаноўвалася браць з дому халаты, ручнікі, кашулі, пантофлі і іншыя неабходныя рэчы ўжытку. Ганебная, канечне, з'ява пры бясплатным медыцынскім абслугоўванні. Гэта выправіў гарвыканкам, які накіраваў са свайго бюджэту на патрэбы раддома 700 мільёнаў рублёў. Акрамя гэтага, дапамаглі бавоўнянае аб'яднанне, фабрыка мастацкіх вырабаў, майстэрні псіханеўралагічнага дыспансера, фабрыка індывідуальнага пашыву адзення.

### Перспектыва ёсць

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У лістападзе ў выставачным комплексе нашай сталіцы праходзіла выстава-продаж «Мэбля-98». У ёй прымаў удзел калектыў акцыянернага таварыства «Косаўскае мэблевае вытворчае аб'яднанне». Мясцовыя мэбельшчыкі паказалі тры новыя віды мэблі: набор мэблі карпуснон «Касаўчанка», набор мэблі для спальні і мяккі вугалок, а таксама тумбу вуглавую для радыёапаратуры і стол двухтумбовы.

Як адзначыла начальнік аддзела збыту аб'яднання В. А. Грыцэвіч, прайшоўшы мастацкі савет на здзіўленне ўсіх прысутных не даў ніводнай заўвагі па выстаўленай мэблі. А гэта значыць, што можна рабіць дакументацыю і запускаць у серыйную вытворчасць гэтыя новыя віды мэблі.

На выставе-продажы з арганізацыямі гандлю ўсіх абласцей рэспублікі падпісаны папярэднія пратаколы на пастаўку мэблі на суму 70 мільярдаў рублёў. Ёсць таксама дамова на пастаўку косаўскай мэблі ў Расію як гандлёвым арганізацыям, так і па бартэру.

Косаўскія мэбельшчыкі з надзеяй і ўпэўненасцю ўступаюць у новы год. У іх сапраўды ёсць перспектыва. Гэта паказала выстава ў Мінску «Мэбля-98».

● *РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА*

## ШТО ПАЧЫМ?

***Цэны на рынках нашага рэгіёна ў мінулыя выхадныя (у тысячах руб. за адзін кілаграм) былі наступныя:***

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза |
|---|---|---|---|
| Свініна | 60—80 | 90—135 | 80—90 |
| Ялавічына | 70—75 | 75—110 | 75—80 |
| Сала салёнае | 60—70 | 80—95 | 60—65 |
| Алей (1 л) | 48—55 | 51—60 | 48—55 |
| Яйкі (1 дзесятак) | 30 | 32—33 | 25—30 |
| Малако | 5—6 | 5—6 | 6 |
| Бульба | 5—7 | 5—7 | 5—6 |
| Капуста | 5—7 | 4—5 | 5—9 |
| Цыбуля | 13—15 | 13—14 | 15 |
| Морква | 5 | 5—6 | 5 |
| Памідоры | 35—40 | 35 | 35 |
| Яблыкі | 3—15 | 5—15 | 6—13 |
| Арбузы | 8 | 7 | 8 |
| Бананы | 35—40 | 29—37 | 25—32 |
| Апельсіны | 40—45 | 38—42 | 42 |
| Вінаград | 80 | 40—75 | 70 |
| Грушы | 20 | 20—30 | 25 |
| Цукар | 22 | 22 | 22 |
| Мука | 16,5 | 15,5 | 17,5 |
| Селядцы п.п. | 43—46 | 42 | 47—48 |
| Скумб. вэндж. | 90 | 100 | 90 |

### ВАЛЮТА НА «ЧОРНЫМ» РЫНКУ

| | Івацэвічы | | Баранавічы | | Бяроза | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
| 1 долар ЗША | 36 | 38 | 36 | 38 | 36 | 38 |
| 1 дойчмарка | 19 | 21 | 19 | 21 | 19 | 21 |
| 1 рубель Расіі | 5,8 | 6,4 | 5,8 | 6,4 | 5,9 | 6,5 |

## НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

### Сусветны банк адмовіў у крэдыце Беларусі

***Сусветны банк прыпыніў выдзяленне абяцанага Беларусі крэдыту ў памеры 150 мільёнаў долараў.***

У сваёй заяве банк падверг крытыцы маруднасць у ажыццяўленні эканамічных рэформ і аб'явіў, што крэдыт будзе прадастаўлены толькі пасля вызвалення цэн і стабілізацыі нацыянальнай валюты. Беларусь — адзіная з былых рэспублік СССР не атрымала ніякай дапамогі ад Сусветнага банка за апошнія тры гады.

### Ордэн Расіі – В. Быкаву

***Ад імя прэзідэнта Расіі Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Расійскай Федэрацыі ў Беларусі В. Лашчынін уручыў ордэн Дружбы Васілю Быкаву.***

Вельмі паказальна, што нягледзячы на вельмі няпростыя расійска-беларускія адносіны Крэмль узнагародзіў імення В. Быкава.

Васіль Уладзіміравіч! «Газета для вас» віншуе Вас з больш чым заслужанай узнагародай і зычыць Вам моцнага здароўя, цярплівасці і далейшага плёну на літаратурнай ніве.

### Міністра і героя звязалі адным ланцугом

***Супрацоўнікамі праваахоўных органаў затрыманы і змешчаны ў следчы ізалятар Камітэта дзяржаўнай бяспекі міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь Васіль Севасцьянавіч Лявонаў і старшыня праўлення закрытага акцыянернага таварыства аграпрамысловага аб'яднання «Рассвет» Герой Сацыялістычнай працы Васіль Канстанцінавіч Старавойтаў.***

В. С. Лявонаў затрыманы па падазрэнню ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага артыкулам 91 частка 4 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (крадзеж маёмасці ў асабліва буйных памерах), і карупцыі.

В. К. Старавойтаў затрыманы па падазрэнню ў крадзяжы ў асабліва буйных памерах.

Вядзецца следства па справах арыштаваных.

### Знойдзена жалезная руда

***У Стаўбцоўскім раёне пачаты буравыя работы па папярэдняй разведцы Акалаўскага радовішча жалезнай руды.***

Яно разглядаецца ў якасці магчымай уласнай мінеральна-сыравіннай базы Беларускага металургічнага завода ў Жлобіне. Разлікі паказваюць, што прамысловыя запасы руды складаюць 304 мільёны тон.

### Юбіляр разам з сябрамі

***У Нацыянальным тэатры прайшла творчая вечарына «Я з вамі не развітваўся ніколі», прысвечаная 50-годдзю кіраўніка студыі «Сябры» Анатоля Ярмоленкі.***

За актыўную прапаганду нацыянальнага музычнага мастацтва Анатоль Ярмоленка ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

### Бельгійцу далі 8 гадоў

***Завяршыўся судовы працэс над грамадзянінам Бельгіі Вілі Солье, які прызнаны вінаватым у гібелі дзяцей летам гэтага года ў Кобрынскім раёне. Прысуд — 8 гадоў пазбаўлення волі.***

Нагадаем, што сёлета 1 ліпеня двухпавярховы аўтобус, які вёз дзяцей з Рэчыцкага раёна на аздараўленне ў Бельгію, перакуліўся на шашы побач з Кобрынам. У выніку аварыі чацвёра дзяцей загінула, а больш за 60 атрымалі траўмы і раненні.

Бельгійская страхавая кампанія выплаціла 80 тысяч долараў кампенсацыі сем'ям загінуўшых і пацярпелых.

**(Па старонках незалежных газет).**

ЯК ЖЫВЕШ, ВЕТЭРАН?

# Эх, як бы дажыць...

*Р. Г. Пшанай — ветэран вайны і працы. Жыве ў г. Івацэвічы. Ужо дзесяць гадоў на заслужаным адпачынку. З ёй і сустрэўся наш карэспандэнт.*

**— Раіса Гардзееўна, Вы дзесяць гадоў на пенсіі. На ваш погляд, гэта многа ці мала?**

— Ведаеце, я вымушана была пайсці на пенсію: маці моцна хварэла і яе трэба было даглядаць. Дзесяць гадоў мінулых — гэта, здаецца, і многа. А для мяне — нібы ўчора ўсё пачалося. Спярша маці пахавала, потым іншых родзічаў і ваенных сяброў. Штогод кагосьці губляем...

**— А ці не надакучыла адпачываць?**

— Што вы! Пра які адпачынак можа ісці гаворка? Я таксама думала: вось пайду на пенсію, тады адпачну. Атрымліваецца наадварот. Няма калі, як кажуць, і дыхнуць. То работа па доме, то на агародзе. А можа гэта і лепш, што няма калі расслабіцца, няма калі думаць пра свае хваробы.

**— Мне вядома, што Вы, Раіса Гардзееўна, жывяце адна ў сваёй хаце. Ці прыходзіцца сумаваць?**

— Калі сказаць шчыра, то старасць — не радасць. Не ведаю такога чалавека, які б не сумаваў. Хай не адкрыта, а ў душы. А я чамусьці не адчуваю вялікай самоты. Часта ка мне прыходзіць брат Васіль. Ён жыве тут жа ў Івацэвічах. Дапамагае. Штодня заглядваюць знаёмыя. І ў царкву хаджу, не цураюся людзей і сваёй веры.

А нядаўна ка мне прыехала пагасціць унучка Ірынка. Так што клопатаў прыбавілася. І сын Юрка, што ў Мінску, не забывае мяне.

**— Раіса Гардзееўна, Вы — ветэран вайны. Ці помняць пра вас мясцовыя ўлады? Хто з баявых сяброў піша, з кім сустракаецеся?**

— У нас пра ўдзельніка вайны ўспамінаюць толькі ў святы. Як быў гарсавет, то віншавальную паштоўку прысылалі. Гадоў пяць яшчэ таму нейкія падарункі ўручалі. А зараз і гэтага няма. Што ж, такі цяжкі час. Але ўвагай мы, ветэраны вайны, не зусім абдзелены. Ёсць у нас пэўныя льготы. І пенсія ў нас вышэй, чым у ветэранаў працы. За гэта дзякуй.

З маіх баявых сяброў ужо нікога няма ў жывых. Усе паўміралі. Так што, мусіць, сустрэнуся ўжо з імі на тым свеце.

**— 24 гады Вы, Раіса Гардзееўна, працавалі ў гандлі. Ці не забылі Вас былыя чыноўнікі, як да Вас адносяцца?**

— Скажу па праўдзе, чым больш гадоў мінае, тым усё далей ад нас былое начальства. Калі раней тым-сім трохі дапамагалі, то зараз і гэтага няма. Сёлета да Дня Перамогі сабралі ветэранаў вайны і ўручылі падарункі і грашовую дапамогу. Раз за год успомняць пра жывых. На каго ж злавацца і крыўдаваць? Не забылі ўсё ж. Я ведаю пенсіянераў, пра якіх ніхто і ніколі не ўспамінае, як быццам яны і не працавалі, і не мелі працоўнага калектыву. Думаеце, што кажу няпраўду?

**— Поўнасцю згодзен з Вамі, Раіса Гардзееўна. Не пазайздросціш такім пенсіянерам. Як яны жывуць, відаць, мала каму вядома?**

— Канешне. Вось я, здаецца, атрымліваю неблагую па сённяшніх мерках пенсію, але ніяк не магу звесці канцы з канцамі, вечна ў даўгах. Вось і зараз паўмільёна трэба аддаць. Зноў буду чакаць, пакуль атрымаю сваю «зарплату». Хоць ёсць у мяне сад, агарод, трымаю курэй, сыны дапамагаюць, а жыць цяжка.

Я ўжо не раз думала, як жывуць іншыя пенсіянеры, што атрымліваюць мінімальную пенсію, тыя 500-600 тысяч рублёў. Іх жа на хлеб і малако не хапае.

Чалавек усё жыццё працаваў, аддаў сілы і здароўе дзяржаве, выйшаў на пенсію і па сутнасці стаў жабраком. Такое можа быць толькі ў нашай дзяржаве.

**— Падобнае я не раз чуў і ад іншых пенсіянераў. На Ваш погляд, Раіса Гардзееўна, як дажыць адведзены астатак жыцця беднаму пенсіянеру?**

— Як дажыць? Цяжка адказаць на гэтае пытанне. Кожны маецца пасвойму. Заўважце, усе садзяць бульбу, наш другі хлеб. Калі ён ёсць, ужо з голаду не памрэш.

А хто яшчэ мае нейкія сілы, то ўтрайваецца на работу, прытым любую, каб нейкую дабаўку ў сям'ю прынесці. Выходзіць, замест адпачынку зноў праца. Я ведаю былых настаўнікаў, інжынераў, якім пенсіі не хапае на пражыццё. І яны ўладкоўваюцца на любую работу (дворнікі, вартаўнікі), каб трохі падзарабіць. Не ад дабра гэта. Словам, дажыліся, дастукаліся, пабудавалі светлае будучае.

Мы, пенсіянеры, ужо старыя людзі, можна сказаць пражылі сваё, хаця і нам хочацца напаследак адчуць нейкую палёгку. А як жыць нашым дзецям, унукам? Сэрца баліць больш за іх, а не за сябе.

Штодзень па радыё, тэлевізару, у дзяржаўных газетах захлёбваючыся гавораць і пішуць аб нейкім уздыме эканомікі, павышэнні жыццёвага ўзроўню народа, а ён тым часам усё бяднее і бяднее. Крыўдна: чуеш адно, а сваімі вачамі бачыш зусім іншае.

Відаць, я не дажыву да светлых дзён. Але я веру, што наш працалюбівы народ усё ж даб'еццa сапраўды дастойнага жыцця, лепшай долі.

**— Дзякуй Вам, Раіса Гардзееўна, за шчырую размову, за Ваш аптымізм. Здароўя Вам і Вашым родным. І, як кажуць па-руску, «Да хранит вас Бог!».**

*Гутарыў С. КАЖАДУБ.*

ДА ЮБІЛЕЮ АДАМА МІЦКЕВІЧА

# НА РАДЗІМЕ ПАЭТА

*На днях апублікаваны Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб святкаванні 200-годдзя з дня нараджэння паэта Адама Міцкевіча». Намечана, у прыватнасці, адкрыць музей-сядзібу Адама Міцкевіча ў вёсцы Завоссе Баранавіцкага раёна, правесці міжнароднае свята паэзіі.*

*Матэрыял нашага няштатнага карэспандэнта Міхася Маліноўскага з Баранавіч і прысвечаны будучаму юбілею паэта.*

У вёску Завоссе да будучага музея я і фатограф-аматар Васіль Майсюк дабіраліся пешшу. Перад падарожжам я зноў перачытаў даследаванне Вінцэся Каратынскага «Дадатак да біяграфіі Адама Міцкевіча». У ім даследчык сцвярджае, што вялікі паэт мог нарадзіцца толькі ў Навагрудку, а не ў Завоссі.

Як бы там ні было, але Завоссе, як тыя грэкі за Гамера, «змагаецца», што менавіта ў ім нарадзіўся вялікі паэт.

Адыходзячы ад Выгады, мы пайшлі ў Завоссе надта прывабнымі пералескамі і палямі... Раней гэтая мясціна з фальваркам і некалькімі сялянскімі хатамі побач называлася Завоссе-Калдычава па найменню бліжэйшай вёскі са славутым Калдычаўскім возерам, апетым Янам Чачотам — сябрам Адама Міцкевіча.

За вярсту ад Завосся ў фальварку Белая жылі ў пачатку XIX стагоддзя суродзічы Міцкевіча Стыпулкоўскія, але, на жаль, з мясцовых жыхароў ніхто і нічога не мог расказаць аб іх і аб іх гаспадарах. Усё ж з літаратуры вядома, што ў Белую неадноўчы бегаў сам Адамчык, як называлі юнага Міцкевіча.

Сядзіба Завоссе нам больш вядома па выдатнаму малюнку славутага Напалеона Орды. Што мы бачым на ім? Тыповы шляхецкі вясковы дом сярэдняй рукі заможнасці. Будынак з саламянай страхой мае два коміны, з франтальнага боку невялікія ваконцы, ганак, а над ім выступ на двух апорных слупах. Паблізу будынка мы бачым двух'ярусны лямус з слупавой галярэяй...

Калі мы наблізіліся да Завосся, дык убачылі там вялікую колькасць пабудоў. Дагэтуль там толькі знаходзіцца адзіны абеліск з надпісам: «Тут, у Завоссі, 24 снежня 1798 года нарадзіўся вялікі паэт Адам Міцкевіч».

Раней на гэтым месцы быў другі памятны знак з такім жа надпісам, і быў ён пастаўлены ў 1924 годзе. А новы, з надпісам па-беларуску, з'явіўся да стагоддзя з дня смерці вялікага песняра.

Мы агледзелі і сфатаграфавалі гаспадарчыя і бытавыя пабудовы фальварка, а таксама ўсе будынкі музейнага комплексу "Завоссе", якія аднаўляюцца да 200-х народзін Міцкевіча.

Вось што піша баранавіцкі краязнаўца Аляксандр Шоцкі пра Завоссе: «У гэтай шляхецкай сядзібе, у сваёй цёткі Барбары (сястра бацькі Адама Міцкевіча. —М. М.), юны Адам праводзіў амаль усе канікулы. Сюды яго вабілі цудоўныя ваколіцы засценка: лес, напоўнены птушыным розгаласам, стракатыя ад кветак лугі, люстэркі возера і сажалак, сінія стужкі рэчак, пагоркі і горы. Асабліва любіў ён дзівіцца на навакольныя пейзажы з Жарновай гары, самай высокай ва ўсёй ваколіцы. І сёння тут яшчэ веюць вятры, што калісьці неслі па свеце думы і мары паэта аб лепшай долі свайго краю».

А гэтую вытрымку я ўзяў у таго ж Вінцэся Каратынскага з яго артыкула «Некалькі падрабязнасцяў пра сям'ю, месца нараджэння і маладосць Адама Міцкевіча»: «Са сціплай кніжачкі гісторыі Завосся ўсё-такі нельга выдзіраць самую каштоўную старонку з імем Адама Міцкевіча. У гэтым маленькім шляхецкім дворыку... пясняр у юнацтве правёў амаль усе канікулы ў сваёй цёткі. У гэтым пакойчыку над свірнам ён заўсёды з ахвотаю сядзеў і ўглядаўся ў цудоўныя ваколіцы засценка, «збіраючы фарбы для вобразаў», якія ў будучым з любоўю, як ніхто іншы, меўся намаляваць. З гэтых аконцаў цудоўна глядзіцца згаданая ім Жарновая гара, самая высокая ва ўсёй ваколіцы, якая па форме сваёй нагадвае велізарныя млынавыя жорны. Тут сцены і шыбіны акон былі пазапісваны яго дзіцячай рукой».

Хто ж адбудоўвае музейны комплекс, прысвечаны Адаму Міцкевічу? Гэта асобная брыгада прараба Ю. Вашчанскага з сумеснага беларуска-польскага прадпрыемства «Рэнаватум». Думаецца, што ўсё тут будзе зроблена ў вызначаны тэрмін.

Напаследак хачу прыгадаць словы вялікага француза Віктара Гюго: «Гаварыць пра Міцкевіча — гэта гаварыць аб прыгажосці, справядлівасці і праўдзе, гэта гаварыць аб праве, ваяром якога быў, аб абавязку, бо быў яго героем, аб свабодзе, якой быў апосталам, аб вызваленні, якое вясціў».

*М. МАЛІНОЎСКІ.*





*НА ЗДЫМКАХ: абеліск, прысвечаны Адаму Міцкевічу; Завоссе. Лямус.*
*Фота В. МАЙСЮКА.*

ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Маладажоны

Мой сусед — трактарыст. У вёсцы яго завуць проста Шурка, Шурка Міхалкаў. Так бацьку ягонага называлі. Не пашанцавала небараку, да сарака не дажыў. Падвыпіў і да хаты ўзімку не дабраўся, замёрз на дарозе.

Зайшоў той Шурка да мяне на другі дзень каляд і просіць:

— Падвязі на сваіх «Жыгулях» да раддома, жонку хачу адведаць. Ты ж ведаеш, сынок першы ў мяне...

— Канешне, ведаю. Як не ведаць, — пацвердзіў я.

Адмовіць суседу не мог. Як-ніяк, а побач жывём. І вось пасля абеду мы пад вокнамі раддома. Шуркіна Маня адразу ж выглянула ў акно (відаць, чакала), заўважыла нас, рукой памахала. А потым да акна і немаўлятка паднесла.

— На мяне ўдаўся, — адразу ж зрабіў катэгарычны вывад Шурка і палез у кішэню па цыгарэту. Па яго твары расплылася задаволеная ўсмешка. Побач з намі абапершыся на кіёк, стаяў стары. Мне здалося, што яму дзесьці каля сямідзесяці ўжо. Ён нешта махаў рукой маладой асобе з дзіцём у акне побач з Шуркінай Маняй.

А калі адыходзілі, Шурка не ўстрымаўся і запытаў:

— Ну што, дзядуся, унук? Віншую.

— Не, браце, не ўнук, а сын, — адказаў упэўнена стары і горда ўзняў галаву, заўсміхаўся, паказваючы нам бялюткія ўстаўныя зубы.

— Дай, дзядусь, руку пацісну, — звярнуўся Шурка, а потым не без гонару ўсклікнуў: — Вось якія мы маладажоны!

І хітра падмігнуў мне.

*С. РЫГОРАЎ.*

*БИБЛИЮ ЧИТАЕМ ВМЕСТЕ*

# И осел надобен Господу

**(ЕВАНГЕЛИЕ ОТ ЛУКИ, 19 гл.)**
**1 ЧАСТЬ**
**(Продолжение. Начало в №№ 3—65).**

Сегодня старого города Иерихон не существует. Еще тридцать пять веков назад он был проклят Богом и обречен на вечное забвение. Перевод слова «Иерихон» имеет много значений. Во-первых, это «благоухающий». Необыкновенной красоты розы Востока, плодоносные пальмы, бальзамовые деревья, обилие фруктов и овощей поистине делали Иерихон благоухающим садом. Другое значение названия города означает «месяц» или «луна» как объект богопротивного поклонения. Соединив эти названия и их значения вместе, мы и получим причину проклятия города. Надеясь на богатство и красоту, но отвергнувши живого Бога, Иерихон стал первым городом-врагом на пути израильской армии в ханаанских землях.

Разведчики Израиля переправились через Иордан и проникли в Иерихон. Будучи обнаруженными, они укрылись в доме блудницы Раав (Рахавы), чей дом находился в стене города. Раава под страхом смерти скрывала соглядатаев. Что же двигало столь опасным решением блудницы? Зная о необыкновенных делах Бога и охране израильского народа, она более боялась Бога, нежели армии Иерихона, и менее доверяла мощным стенам. Другими словами Раава, верила слову Бога более, чем собственным глазам. Подвигом Раавы разведчики были спасены.

По переходу израильской армии через Иордан, Бог повелел евреям шесть дней обходить город вокруг его стен. На седьмой же день Бог сказал обойти город семь раз и в завершении шествия вострубить божиими юбилейными трубами и вскричать громким голосом. Невероятное повеление! Но Бог всегда точно знает, что является правильным и необходимым. Вероятно, солдаты армии Иерихона потешались над евреями, путешествующими вокруг стен и носящими свои религиозные вещи впереди армии. Башни берут приступом, используют стенобитные машины, лестницы, катапульты. Какой Бог поможет разрушить неприступную крепость?

Современные раскопки древнего Иерихона убедительно доказывают необыкновенное разрушение мощных городских стен. Разрушение произошло не внутрь, как это всегда бывает при осадах и штурмах, а во внешнюю сторону, от города. Молча, потому что таково было повеление Бога, израильтяне носили шесть дней ковчег Божий вокруг стен, вероятно, слушая самые гневные проклятия и насмешки иерихонцев. На седьмой же день, при седьмом обходе, во время звуков труб и прославления Бога, стены Иерихона рухнули до основания, придавив всю армию, находящуюся на стенах города-богопротивника. Раав же была спасена вместе со своим семейством несмотря на то, что была в самом опасном месте, внутри разрушившихся стен! Бог помиловал ее и всех поверивших ее словам родственников, которые пришли для спасения от армии Израиля. Только подумайте! Солдаты на стенах смеялись, поносили Бога, и все это слышала Раав и ее родственники целую неделю. И все же они верили в победу иудеев и силу их Бога.

Город был уничтожен, а Раав не только помилована, но и стала прапрабабкой знаменитого царя Давида и попала в родословную Иисуса Христа. **(Евангелие от Матфея 1:5).**

Подобно Рааве (что произошло 1500 лет до встречи Иисуса и мытаря), один грешник Закхей делами подтвердил свою веру Богу. Иисус не посмотрел на тяжесть преступлений этих людей, но простил, видя, что вера их восторжествовала и в делах. Они верили не глазам и опыту жизни, не традициям их народа, но словам Бога. Поверив, они изменили свою жизнь.

Ст. 10 говорит, что Иисус пришел взыскать и спасать ПОГИБШЕЕ. Не то, что погибает, а то, что погибло окончательно. А в глазах людей и Раав, и Закхей были погибшими людьми, не подлежащими исправлению. Бог иначе смотрит на нас. Он смотрит не на то, что мы сделали в жизни до встречи с Ним и Его словом, а на то, что мы делали после того, как мы встретились и узнали Его волю.

Иисус еще и сегодня ищет не тех, кто надеется на мощные стены, деньги, положение, силу или мудрость, а того, кто поймет и признает себя погибшим. Кто решительно и бесповоротно начнет новую жизнь служения Богу. Кто сам разрушит каменные стены своего сердца и отворит для Христа двери души, кто примет Его в свой дом, кто посвятит свою жизнь жизни во Христе, исполняя Его заповеди. Чьи дела станут подтверждением его веры. Бог любит и желает прощать.

*С любовью к Вам, священнослужитель Церкви «Рождества Христово»*
*КОНСТАНТИН.*

**(Продолжение следует).**

*СТОП-КАДР*



*Гарадскія кантрасты.* *Фота А. ГАНЧУКА.*

*СПОРТ*

# У фінале

ДЮСШ № 3 г. Баранавічы правяла сваё адкрытае першынство па ушу і запрасіла да сябе 150 спартсменаў. Выхаванцы Яглевіцкай секцыі ўсходніх адзінаборстваў (Івацэвіцкі раён) Віталь Ягнешык і Сяргей Сікора выйшлі ў фінал, заняўшы адпаведна першае і другое месцы.

— Нашы рабяты асабліва не засмучаны, што мала атрымалі перамог над сваімі сапернікамі, — гаворыць трэнер Аляксандр Ягнешык. -- Важна тое, што яны змаглі сачыць за паядынкамі іншых, паназіраць за тэхнікай вядзення баёў і лепшае пераняць для сябе.

Яглевіцкая каманда вельмі ўдзячная начальніку райгаза Р. Р. Барынчыку, які выдзеліў у іх распараджэнне на два дні аўтобус.

*Л. САШЫН.*

*КНІЖНАЯ ВІТРЫНА*

# З нашай спадчыны

**Чачот Я. Выбраныя творы** (Уклад., пер. з польскай, прадм. і камент. К. Цвіркі. — Мн., 1996).

Самае поўнае выданне твораў пачынальніка новай беларускай літаратуры, якія паўтара стагоддзя былі з розных прычын схаваныя ад чытача. Нібы захапляльныя раманы, чытаюцца бліскучыя вострасюжэтныя балады, заснаваныя на народных паданнях і легендах. Тут жа паэтычны цыкл «Спевы пра даўніх ліцвінаў...» – своеасаблівая гісторыя старажытнай Беларусі, чароўныя радкі студэнцкай і пасляступдэнцкай лірыкі.

**Багдановіч М. Выбраныя творы** (Уклад. С. Забродскай, Э. Золавай і інш. Уступ. словы Н. Гілевіча і А. Бяляцкага. — Мн., 1996).

У аднатомнік класіка беларускай літаратуры ўвайшлі ўсе найбольш значныя яго творы. Яны даюць добрае ўяўленне пра вельмі прывабны воблік гэтага выдатнага паэта, пра яго незвычайны талент.

**Ластоўскі В. Выбраныя творы** (Уклад., прадмова і каментарыі Я. Янушкевіча — Мн., 1997).

У магутнай кагорце беларускіх адраджэнцаў постаць Вацлава Ластоўскага (1883-1938) адна з самых незвычайных. Прэм'ер-міністр БНР, даследчык гісторыі культуры Беларусі, дасведчаны вучоны, аўтар «Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка», «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі», В. Ластоўскі быў выдатным публіцыстам, самабытным празаікам, арыгінальным паэтам і перакладчыкам. Заўчасна пайшоў з жыцця, стаўшы ахвярай бальшавіцкага тэрору. Аднатомнік упершыню знаёміць чытача з лепшай часцінай багатай на плён літаратурнай спадчыны В. Ластоўскага.

*КРЫМІНАЛ*

# Захацелася свежыны

Ды так моцна, што хлопцы адразу рашылі: «Здабудзем». Параіліся і прыйшлі да высновы, што каб добра пагуляць, трэба цэлага кабанчыка засмажыць. Сказана – зроблена. У ноч з 11 на 12 лістапада паехалі машынай у вёску Кушняры. Яшчэ да гэтага ў жыхаркі Х. яны прыглядзелі гадавалага парсюка, кілаграмаў на 150.

Пасля апоўначы выгналі кабана з хлява, закалолі, пагрузілі ў машыну і паехалі. Дзе раздзелывалі парсюка, толькі можна здагадацца.

Пры паступленні паведамлення ў міліцыю аб крадзяжы адразу ж прыступілі да аператыўных пошукаў. Не прайшло і дня, як напалі на след злодзеяў. У адным з гаражоў Івацэвіч знойдзена туша кабана. Па ўсім відаць, злодзеі так і не паспелі паспрабаваць свежыны.

Узбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

*М. ВАРАНКОВІЧ, оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*



Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 20 лістапада ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: 225250, г.Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя "Газеты для вас".
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

Тыраж 1400.
Заказ 2737.